


**ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 16 (147) — Нядзеля 19 красавіка 1953 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 7


# Хвальшывыя галубы міру

### НОВЫЯ МАНЭЎРЫ КРЭМЛЯ

Калі яшчэ ў папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» пісалася на гэтым месцы аб пачатку новай «мірнай афэнзывы» Савецкага Саюзу, якую эўрапэйскі Захад пачаў быў прыймаць за чыстую манэту, дык тады савецкія верхаводы не праяўлялі яшчэ ніякай арыгінальнасьці. Гэта былі яшчэ толькі словы аб магчымасьцях мірнага існаваньня двух сьветаў, словы якія сьвет ня раз ужо чуў навет з вуснаў самога Сталіна. Але прайшло ўсяго толькі два тыдні, якія прынесьлі шмат чаго новага: гэтыя словы, тады яшчэ адзіночныя й стрыманыя, выліліся ўжо ў цэлую кампанію мірных і прыязных залётаў да Захаду. Да гэтых словаў далучыліся й чыны.

Гэтак у Савецкім Саюзе абвешчана амнэстыя, выданы дэкрэт аб чарговым зьніжэньні цэнаў, звольненыя 15 нядаўна арыштаваных лекараў, а заступнік міністра дзяржаўнай бясьпечнасьці Румін, што іх абвінавачваў у атручэньні Жданава, Шчарбакова й іншых, арыштаваны, а ягоны шэф, міністар дзяржаўнай бясьпечнасьці Ігнацьеў, звольнены за гэта із становішча аднаго зь пяцёх сакратароў ЦК камуністычнай партыі. Але найбольшай сэнсацыяй у гэтай справе было тое, што сяньняшнія ўладары Крэмля першы бадай раз у гісторыі савецкай паліцыйнай практыкі, пачынаючы ад ЧК цераз ГПУ, НКВД і да МГБ, у сувязі з гэтым прызналіся, што прызнаньне арыштаваных лекараў да ня зробленай імі віны было вымушанае недазволенымі ў Савецкім Саюзе сьледчымі мэтадамі. Ня менш цікавыя мамэнты зарысаваліся і ў вонкавай палітыцы. Гэтак у Карэі ўжо пачалася вымена хворых і раненых ваеннапалонных, а хутка маюць узнавіцца ў Панмунджоне перагаворы аб перамір'і, пры чым камуністыя выражаюць сваю згоду на адкінуты імі раней прынцып вымены ўсіх ваеннапалонных, што было, як ведама, адзінай фармальнай перашкодай дасягненьня перамір'я. Адбылося ўрачыстае прыняцьце амэрыканскіх журналістых у Маскве, падчас якога падносіліся тосты ў чэсьць Айзэнгаўэра й Маленкава. Саветы заявілі, што іхны ваенны карабель прыме ўдзел у рэвіі флёты падчас каранацыйных урачыстасьцяў у Лёндане. Зусім зьнік афэнзыўны тон прамоваў Вышынскага ў Задзіночаных Нацыях, які цяпер раптам зрабіўся мілым і дабрадушным ды гаворыць аб узаемным капаньні «тунэлю прыязьні». Справа выбару новага генэральнага сакратара ЗН, якая цягнулася ў бесканачнасьць з прычыны савецкага вэта супраць кажнага кандыдата, запрапанаванага Захадам, была разьвязана пазытыўна, таму што й савецкая дэлегацыя ахвотна прагаласавала за выстаўленага Францыяй швэцкага кандыдата. Саветы выразілі ахвоту адбыць канфэрэнцыю чатырох вялікадзяржаваў у справе задзіночаньня Нямеччыны. Як унутры Савецкага Саюзу, гэтак і на форум Задзіночаных Нацыяў спыніліся ўсякія напады на дэмакратычны Захад, навет на Амэрыку, і абвінавачваньні яго ў агрэсыўных намерах.

Вось цэлая літанія новых актаў міру й прыязьні, якая склалася ўсяго толькі на працягу некалькі тыдняў. Астаецца спадзявацца, што пакуль гэты артыкул дойдзе до чытача, гэты сьпісак значна пашырыцца і сьвет перажыве не адну яшчэ сэнсацыю.

Усё гэта ашаламіла дэмакратычны Захад, які перажывае запраўднае «галавакружэньне ад усьпехаў» і ў сваей наіўнасьці пачынае шчыра верыць у запраўдныя мірныя інтэнцыі Савецкага Саюзу, за выключэньнем толькі Амэрыкі, якая і гэтым разам знайшлася на вышыні свайго заданьня й сваей годнасьці. У той час, калі Амэрыка захоўвае стрыманасьць, цьвяроза вывучае новыя ходы савецкай палітыкі, заглядаючыся на іх вельмі сцэптычна й захоўваючы патрэбную асьцярожнасьць, эўрапэйскі Захад, перадусім Францыя й Ангельшчына, пачынае браць гэта паважна. Ангельская й француская прэса пачынае дашуквацца мірных інтэнцыяў Масквы, навет там, дзе маем зьявішчы адваротныя. Гэтак, прыкладам, калі Саветы запрапанавалі, замест дасюлешніх трох паветраных калідораў з Захаду ў Бэрлін, толькі адзін, і то такі, якім не маглі-б пралятаць вайсковыя самалёты, брытанская прэса пасьпяшалася гэта скамэнтаваць, як новы доказ мірнай ініцыятывы Крэмля. «The Sunday Times» нядаўна пісаў: «Каб спраўдзіць, ці расейскія й кітайскія гэсты ў запраўднасьці абазначаюць мір, мы самі павінны зрабіць усё, што ў нашай магчымасьці, каб надаць ім значэньне міру, сардэчна іх прыймаючы і выцягваючы зь іх усё, што толькі выцягнуць даецца». Гэтыя словы ангельскае газэты ніякіх камэнтараў не патрабуюць.

### БЯЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Каб зразумець усе гэтыя гэсты й новыя манэўры савецкае палітыкі, трэба сягнуць у недалёкую мінуўшчыню Савецкага Саюзу. Зь яе пабачым, што за апошнія трыццаць год гэта ўжо трэйці падобны паварот савецкай палітыкі. Калі бальшавікі пападаюць у бязвыхаднае палажэньне, калі гарыць ім грунт пад нагамі, тады яны звычайна робяць круты й раптоўны паварот назад, адступаюць ад сваей дактрыны й тактыкі, шукаюць перадышкі, каб, умацаваўшы такім чынам сваё становішча, зрабіць потым такі-ж раптоўны паварот наперад і ня толькі адрабіць, але й надрабіць з працэнтамі страчанае. Ленінскі прынцып «шаг назад, два наперад» трэба разумець даслоўна.

Калі ў часы ваеннага камунізму й дамашніх войнаў краіна была аслабленая эканамічна, сярод насельніцтва паднялася грозная хваля незадаваленьня бальшавіцкай сыстэмай, нерасейскія народы на акраінах узмоцнілі сэпаратыстычныя імкненьні, Ленін, знаходзячыся ўжо над берагам пропасьці, павярнуў раптоўна назад сваю палітычную лінію. Быў абвешчаны НЭП — часткoвы паварот да капіталістычнай сыстэмы. Насельніцтва было задаволенае, ягоныя жыцьцёвыя

(Заканчэньне на 2 балоне)

# ТАКІ КРОК ВІТАЕМ

Ворган групы Астроўскага «Незалежная Беларусь» (№ 3 за сакавік-красавік 1953) у вартыкуле Р. Калюша «Цынічны жарт ці правакацыя?» заняў выразнае становішча да новасьпечанае расейскімі адзінанедзялімцамі з пад знаку СБОНР-у чарговай, гэтым разам бадай найбольш непаважнай і карыкатуральнай, беларускай дывэрсіі пад назвай «Беларускае Дэмакратычнае Аб'еднаньне». Гэтае становішча зусім нэгатыўнае й варожае, якое разглядае гэты твор, як чыста расейскую адзінанедзялімскую агентуру, зложаную часткова зь небеларусаў, а часткова зь Беларусаў або зусім несьвядомых або дробных авантурнікаў, якім іхнымі пратэгаванымі была паказаная пэрспэктыва пажывіцца пры кцабаўскім карыце.

Аўтар артыкулу «Цынічны жарт ці правакацыя?» Р. Калюш, прааналізаваўшы прамову старшыні ўспомненага «Аб'еднаньня» Рэпіна, сказаную на канфэрэнцыі 1 сакавіка сёлета, ды паказаўшы на ейны дывэрсыйны характар і хвальшаваньне вачавідных фактаў, прыходзіць да наступнага вываду:

«Прыймаючы пад увагу, што мы маем дзела з чалавекам дарослым, мы склонны думаць, што ягонае выступленьне трэба разглядаць, як сьвядомую правакацыю, якая накіравана на падрыўную работу сярод беларусаў з метаю адвярнуць іх увагу ад дзейнае барацьбы супраць камунізму ды ськіваваць на нікому хіба (акром бальшавікоў) непатрэбны шлях змаганьня з рознага роду прахадзімцамі, «междометиями» ды агентамі.

У Польшчы такіх прахадзімцаў называюць ПОП-амі (пэлнёнцэ обовёнзэк поляка), мы-ж іх будзем зваць проста САБ...

Дарэмны таму высілак, гаспада інжынеры, дацэнты і дактары! Беларускі народ настолькі ўжо загартаваны ў сваёй 35-ці гадовай барацьбе супраць камуністычнае пошасьці, што вельмі лёгка адрозьнівае сваіх сапраўдных барацьбітоў ад розных прахадзімцаў і платных агентаў, дзеючых на шкоду беларускаму народу!»

Такое выступленьне воргану групы Беларусаў, згуртаваных вакол Беларускай Цэнтральнай Рады, можам толькі прывітаць. Хочам з гэтага цешыцца асабліва ў сувязі з тым, што яшчэ ня так даўно гэтая-ж група сама такія дывэрсіі падтрымлівала й настойліва іх абараняла, што й было галоўным пунктам разыходжаньняў, сварак і варожасьці між намі і імі. Бо навет спасярод г. зв. бэцээраўцаў ніхто сяньня ня зможа запярэчыць, што першай прычынай разьбіцьця між імі й намі былі супрэчлежныя нашыя й іхныя рэакцыі на адыход ад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы былых беларускіх япіскапаў, якія ўліліся ў Расейскую Зарубежную Царкву і павялі выразна антыбеларускую палітычную акцыю, іньсьпіраваную й кіраваную Расейцамі. Дывэрсія япіскапаў Філафея й Апанаса паводля свайго характару была зусім ідэнтычная зь сяньняшняй дывэрсіяй Асадчага й Рэпіна, але паводля сваей вагі й далейшых вынікаў была яна без параўнаньня яшчэ горшая і нягодная.

Цяперашняя дывэрсія г. зв. «Беларускага Дэмакратычнага Аб'еднаньня» ня прынесла і ня можа прынесьці, калі яно наагул будзе далей існаваць, фактычна ніякае шкоды. Уся гэтая камбінацыя была Расейцамі разьлічаная на тое, што ўдасца гэтую арганізацыю неяк спрытна падсунуць Амэрыканскаму Камітэту, які, будучы ў вялікай меры апанаваны людзьмі адзінанедзялімаўскай расейскай арыентацыі, згодзіцца ўвесьці яе ў КЦАБ, як беларускае ў ім прадстаўніцтва. Але, здаецца, Амэрыканскі Камітэт далёкі ад такой думкі. Таму той мамэнт, калі канчальна станецца ясным, што гэтаму «Аб'еднаньню» ў КЦАБ-е месца ня будзе, будзе адначасна і мамэнтам ягонае сьмерці. Мы зарызыкуем навет сказаць, што паўстаньне гэтага «тоже белорусского» твору, ня гледзячы на ўсю яго сяньняшнюю

**(Заканчэньне на 2 балоне)**

# Палітычныя Навіны

**Новая прамова прэзыдэнта Айзэнгаўэра.** 16 красавіка прэзыдэнт Айзэнгаўэр на банкеце амэрыканскіх прэсавых саюзаў сказаў вялікую палітычную прамову, у якой прадставіў свой плян трывалага міру ў сьвеце. Галоўным пунктам гэтага пляну ёсьць праўдзеньне агранічэньня збраеньняў і стварэньне спэцыяльнага фонду ўсімі краінамі сьвету дзеля падняцьця дабрабыту ўсіх тых, што знаходзяцца ў патрэбе й галіце. Правядзеньне такога пляну ёсьць магчымае толькі пры добрай волі Савецкага Саюзу, які свае мірныя намеры мусіў-бы паказаць не на славах, але чынамі. У першую чаргу дзеля гэтага ўважае амэрыканскі прэзыдэнт за неабходнае дасягненьне ганаровага перамір'я ў Карэі. Пасьля гэтага мусіла-б адбыцца палітычная канфэрэнцыя з мэтай правядзеньня вольных выбараў у задзіночанай Карэі, а таксама дзеля спыненьня непасрэднай і пасрэднай камуністычнай агрэсіі ў Індакітаі й на Маляях.

**Вымена хворых ваеннапалонных у Карэі пачалася.** На прапазыцыю камуністых дасягнута пагадненьне аб вымене хворых і раненых ваеннапалонных. 16 красавіка ўжо вырушылі з Паўночнай Карэі першыя транспарты ваеннапалонных збройных сілаў Задзіночаных Нацыяў. Хутка таксама мае быць узноўленая ў Панмунджоне канфэрэнцыя аб перамір'і. Камуністыя ўжо выразілі згоду на сыстэму вымены астальных ваеннапалонных, запрапанаваную раней Задзіночанымі Нацыямі, але адкінутую камуністымі. Амэрыканскія разьведвальныя самалёты 16 красавіка заўважылі, што разам зь першымі транспартамі альянцкіх ваеннапалонных камуністыя падцягваюць на фронт новыя збройныя сілы й узбраеньне. Гэта выклікала ў амэрыканскім кангрэсе вялікае абурэньне.

**Звальненьне савецкіх лекараў.** Арыштаваныя ў студзені сёлета 15 савецкіх лекараў, у бальшыні Жыды, быццам за тое, што на загад замежнай агентуры атруцілі Жданава, Шчэрбакова й намагаліся атруціць іншых савецкіх вяльможаў, былі 5 красавіка звольненыя з пад арышту. У сувязі з гэтым быў арыштаваны заступнік міністра дзяржаўнай бясьпечнасьці Румін, якому закідаецца «сеяньне варожасьці сярод савецкага народу» і «вымушаньне падчас сьледзтва прызнаньня лекараў да віны пры помачы забароненых у Саветах мэтадаў». Міністар-жа бясьпечнасьці Ігнацьеў, якому ў сувязі з гэтым закідаецца «палітычная сьлепата й латвавернасьць», быў выкінуты із становішча аднаго із пяці сакратароў цэнтральнага камітэту камуністычнаў партыі. Лекарцы Лідзіі Цімашук, якой за задэнунцыяваньне савецкіх лекараў быў прысвоены ордэн Леніна, цяпер гэты ордэн адабраны.

**Канфэрэнцыя чатырох у Бэрліне.** Ангельска-савецкія перагаворы ў Бэрліне ў справе бясьпечнасьці пералётаў ангельскіх самалётаў над Усходняй Нямеччынай на прапанову генэрала Чуйкова маюць ператварыцца ў канфэрэнцыю чатырох вялікадзяржаваў (ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі і СССР) у справе задзіночаньня Нямеччыны.

**Новы генэральны сакратар Задзіночаных Нацыяў.** Ад даўжэйшага часу Задзіночаныя Нацыі не маглі выбраць свайго генэральнага сакратара пасьля адмовы ад гэтага становішча Трыгвэ Лі, бо Саветы супраць кажнай кандыдатуры ставілі сваё вэто. Аднак апошнім часам савецкі дэлегат у Радзе Бясьпечнасьці згадзіўся на кандыдатуру швэцкага міністра замежных справаў Дага Гамарск'ёльда, які 7 красавіка 57 галасамі пры паўстрыманьні ад голасу нацыянальнага Кітаю быў зацьверджаны пленумам ЗН на новага генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў.

**Новая зьніжка цэнаў у Саветах.** Пасьля абвешчаньня амнэстыі ў Саветах было выдадзенае распараджэньне аб зьніжэньні цэнаў на артыкулы й тавары першае патрэбы. Гэтак цана мяса зьніжаная на 15%, хлеб, мука, фасоля на 10%, баваўняныя й шоўкавыя тканіны на 15%, тканіны ваўняныя на 5%, панчох на 20%. Гэта ўжо шостая зьніжка цэнаў ад часу грашовай рэформы ў 1947 г.

**Драконскі закон у Баўгарыі.** У Баўгарыі ўвайшоў у жыцьцё закон, паводля якога ўсе ўцекачы з Баўгарыі, што адмовіліся або адмовяцца у будучыні павароту на бацькаўшчыну, будуць караныя сьмерцю, а іхныя сваякі карай 10 гадоў зьняволеньня.

**Вялікія заварушэньні ў Аргентыне.** Апошнімі днямі пачаліся ў Аргентыне вялікія беспарадкі ў сувязі з эканамічным крызысам і спэкуляцыяй, выкліканыя й падтрымліваныя апазыцыйнымі да ўраду партыямі. У сувязі з гэтым у ночы з 14 на 15 красавіка вулічная таўпа сталіцы заатакавала будынкі апазыцыйных партыяў і падпаліла іх. Гэтак былі падпаленыя будынкі сацыялістычнай партыі, радыкалаў і партыі кансэрватыстых. Таксама быў зусім спалены будынак Джокэй-клюбу з цэннымі калекцыямі кніжак і абразоў. Калі прэзыдэнт краіны Пэрон прамаўляў на адным з пляцоў Буэнос-Айрэс, былі кінутыя ў таўпу дзьве бомбы, адна зь якіх разарвалася ў вадлегласьці 150 мэтраў ад прэзыдэнта. У выніку 6 чалавек было забітых і 92 раненых.

**200—300 Немцаў заяўляюцца дзённа ў армію.** Нямецкі камісар абароны Блянк заявіў 14 красавіка, што ад 200 да 300 Немцаў заяўляецца дзённа ахвотнікамі ў будучую нямецкую армію, якая мае мець 12 дывізіяў. Агульная колькасьць ахвотнікаў выносіць ужо 60.000 чалавек, ня гледзячы на тое, што яшчэ няма фармальнага прыйма ў армію, так як дагавор аб нямецкай арміі патрабуе яшчэ ратыфікацыі вышшай палаты нямецкага парляманту (ніжняя палата ўжо яго ратыфікавала), а астальных 5 эўрапэйскіх дзяржаваў яшчэ наагул яго не ратыфікавалі.

**Вялікія дэманстрацыі ў Тэгеране.** У Пэрсыі, як ведама, ад даўжэйшага часу трывае канфлікт між прэм'ерам Мосадэкам і шахам. Камуністыя, якія заявіліся па старане Мосадэка, пастанавілі перад будынкам парляманту зарганізаваць вялікую дэманстрацыю, дамагаючыся абмежаваньня правоў шаха. Гэтая дэманстрацыя адбылася 14 красавіка, якая ператварылася ў крывавыя заварушэньні, у выніку чаго адзін камуністы быў забіты, а 20 раненых.

**Адэнаўэр у ЗША.** Усьлед за візытай у ЗША ангельскіх і францускіх міністраў у панядзелак 6 красавіка прыбыў у Нью Ёрк канцлер нямецкай саюзнай рэспублікі Конрад Адэнаўэр, дзе быў авацыйна вітаны амэрыканскім грамадзянствам. Адэнаўэр, які яшчэ дагэтуль знаходзіцца ў ЗША, адбыў некалькі канфэрэнцыяў з прэзыдэнтам Айзэнагўэрам, міністрам замежных справаў Даллесам і іншымі прадстаўнікамі амэрыканскага ўраду.

**Пасьля Саветаў і ў Румыніі амнэстыя.** Прэзыдыюм румынскага Народнага Сабраньня выдаў дэкрэт аб амнэстыі для некаторых катэгорыяў вязьняў. Гэта амнэстыя мае між іншым абняць жанчын, якія маюць дзяцей ніжэй 7 гадоў, цяжарных жанчын і вязьняў, якім больш 60 год.

**Вялікая шпіёнская афэра ў Заходняй Нямеччыне.** Віцэканцлер Заходняй Нямеччыны Блюхэр асьветчыў 10 красавіка, што заходнянямецкая паліцыя раскрыла сетку савецкага шпіянажу, якая зьяўляецца найвялікшай з дасюль выкрытых на Захадзе. У сувязі з гэтым было арыштавана 35 шпіёнаў, а таксама прадбачаны далейшыя арышты. Блюхэр паведаміў, што ў шпіёнскую афэру замешаныя некаторыя міністры й вышэйшыя ўрадаўцы Ўсходняй Нямеччыны.

**Торэз вярнуўся ў Францыю.** Лідэр францускіх камуністых Торэз, пасьля двугадовай курацыі ў Савецкім Саюзе, 10 красавіка вярнуўся ў Парыж. Таўпа, зложаная зь некалькіх сотняў камуністых, зрабіла яму на станцыі ў Парыжы крыклівую авацыю.

**Ціта пра Баўгарыю.** У інтэрв'ю з карэспандэнтам «Юунайтыд Стэйтс Ньюс энд Уэрльд Рэпорт» маршал Ціта выказаў сваё перакана80ньне, што Баўгарыя, за ўзорам Югаславіі, хутка адпадзе ад савецкага блёку.

**Амэрыканцы астануцца ў Карэі.** Прэзыдэнт Айзэнгаўэр асьветчыў 7 красавіка, што ў выпадку, калі ў Карэі будзе дасягнуты мір, «нашыя жаўнеры і жаўнеры нашых саюзьнікаў будуць змушаныя астацца ў Карэі яшчэ на працягу даўжэйшага часу».

## Паведамленьне

**Ад 22 сакавіка да 2 красавіка 1953 году ў Парыжы адбылася канфэрэнцыя дэлегатаў нацыянальных прадстаўніцтваў Азэрбайджану, Армэніі, Беларусі, Грузіі, Паўночнага Каўказу й Украіны. Дэлегацыя нацыянальных цэнтраў успомненых краінаў 22 сакавіка 1953 году была прынятая адміралам Стывэнсам, якому былі прадстаўленыя супольныя пазыцыі ў пытаньні супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму.**

**Канфэрэнцыя ў сваей далейшай рабоце выпрацавала супольны мэмарандум, які быў пададзены Амэрыканскаму Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму, а таксама прыняла плян супольных дзеяньняў у справе змаганьня за вызваленьне народаў СССР і аднаўленьня іхнай дзяржаўнай незалежнасьці.**

**Дзеля каардынацыі сваіх дзеяньняў названыя нацыянальныя цэнтры стварылі Кантактную Камісію.**

# Хвальшывыя галубы міру

(Заканчэньне)

абставіны шыбка паправіліся. Нерасейскія народы атрымалі шырокія магчымасьці нацыянальнага развою. Але калі за гэты час савецкая сыстэма даволі ўмацавалася і калі міжнародная конъюнктура для Саветаў сталася вельмі спрыяльнай, Сталін раптоўна павярнуў у другі бок. Унутры краіны пачалася прымусовая калектывізацыя, ліквідацыя кулацтва й рэштак капіталізму, увесь нацыянальна творчы элемэнт нерасейскіх народаў, які за папярэдні пэрыяд выявіўся, быў бязьлітасна зьнішчаны, Камінтэрн узмоцніў у цэлым сьвеце падрыўную акцыю камуністычных партыяў.

Падобнае зьявішча мела месца і падчас апошняй вайны. Калі бальшавікі апынуліся ў грозным палажэньні й нямецкія войскі дасягнулі прадмесьцяў Масквы й берагоў Волгі, трэба было узноў зрабіць шаг назад, каб ратаваць сытуацыю. З мэтаю атрыманьня максімальнай помачы Захаду распускаецца Камінтэрн і спыняецца падрыўная акцыя пятых калёнаў, а ўнутры краіны, каб узбудзіць гэраізм у насельніцтва, дазваляецца й фаварызуецца царква, уводзяцца ўзноў ахвіцэрскія пагоны й рангі, мякчэе тэрор НКВД. Гэтымі хвальшывымі манэўрамі й акцэнтамі прыязьні Сталіну ўдалося ашукаць Захад на столькі, на сколькі ён хацеў. Захад тады паверыў, што Савецкі Саюз узапраўды эвалюцыянуе ў дэмакратычным кірунку. Гэта было галоўнай прычынай, што пасьля заканчэньня вайны Захад лёгка пайшоў на далёкія ўступкі й даў магчымасьць Савецкаму Саюзу выйсьці з вайны зь вялізарнымі трафэямі, далёка нясумернымі да ягонага ўкладу ў гэтую вайну.

Вось зусім падобнае палажэньня можам назіраць і сяньня. Пасьля сьмерці Сталіна Крэмль увайшоў у стадыю глыбокага нутранага крызісу. Дагэтуль Сталін быў непамыльным і зямным Богам. Німб ягонае вялікасьці й сілы быў непарушны. Усё нутраное жыцьцё Савецкага Саюзу й апіралася на гэтых атрыбутах асобы «вождя». Таму пасьля ягонае сьмерці мусіла сама сабой захістацца ўся сыстэма. Ягоныя наступнікі патрабуюць даўжэйшай перадышкі, каб упарадкаваць і сканcалідаваць нутраныя дачыненьні, каб стварыць нейкі іншы аўтарытэт, які мог-бы замяніць аўтарытэт Сталіна. Пры гэтым ня выключаныя таксама сур'ёзныя церці на самым крэмлёўскім алімпе, аб чым могуць сьветчыць грунтоўная рэарганізацыя дзяржаўнага й партыйнага апаратау ды частыя пэрсанальныя зьмены на вярхох. Вось гэта й мусіла выклікаць патрэбу новае тактыкі Крэмля. Але ня толькі гэта...

### АФЭНЗЫВА МІРУ НА ЎСЛУГАХ АГРЭСІІ

Сяньняшняя афэнзыва міру ў Саветах хавае ў сабе ўсе азнакі далейшае агрэсіі, пры гэтым агрэсіі вельмі небясьпечнай. Гэтая агрэсія мела-б дзьве фазы: спачатку маральна й мілітарна разьброіць Захад, а потым па ім ударыць.

Ужо сяньняшнія мірныя акцэнты новых уладароў Савецкага Саюзу пачалі, як было сказана, маральна раззбройваць Захад. Захад Эўропы, які хоча міру за ўсякую цану, грамадзянства якога зьяўляецца падточаным ракам дэфэтызму й пацыфізму, які ў кажным савецкім гэсьце, навет найбольш аблудным, дашукваецца мірных інтэнцыяў, пачынае сяньня верыць, што Саветы пры новым кіраўніцтве ўзапраўды ня хочаць вайны і што зь імі можна ўсё-ж такі дагаварыцца. Падобнымі настроямі перапоўненая сяньня амаль уся ангельская й француская прэса.

Ад раззбраеньня маральнага, якое выразна пачалося, адзін толькі шаг да раззбраеньня мілітарнага, г. зн. да выдатнага абмежаваньня збраеньняў Захаду, які яшчэ ня ўзброіўся. Некаторыя сымптомы і такога раззбраеньня ўжо паяўляюцца. У ангельскай і францускай прэсе ўжо можна пачуць галасы аб патрэбе зьмяншэньня падаткаў на абарону і аб скарачэньні тэрміну вайсковай службы. Падобна ў ЗША гаворыцца ўжо аб новым мірным бюджэце прэзыдэнта Айзэнгаўэра. Небясьпека можа праявіцца ў тым, што падобныя настроі могуць мець свой адмоўны ўплыў на ратыфікацыю дагавораў аб эўрапэйскай арміі.

Вышэй была мова аб тым, што Саветы выказваюць жаданьне канфэрэнцыі чатырох вялікадзяржаваў у справе задзіночаньня Нямеччыны. Ня выключана, што ў справе нямецкай Крэмль можа пайсьці на далёкія ўступкі, бо яму гэта аплачваецца. Калі-б ён, прыкладам, згадзіўся на вольныя выбары ў цэлай Нямеччыне, дык справа эўрапэйскай арміі гэтым самым была-б пахаванай. А пакуль у гэтай справе вяліся-б перагаворы, у якіх Саветы маніфэставалі-б сваю «добрую волю», справа гэтая цягнулася-б узноў у бесканечнасьць.

Паколькі, аднак, Амэрыка глядзіць на ўсе гэтыя манэўры Масквы трэзва і старалася-б астуджваць давер эўрапэйскага Захаду да савецкіх прапановаў, дык клін разыходжаньняў між Амэрыкай і Эўропай мог- бы моцна паглыбіцца. Трэба не забывацца, сколькі Амэрыка мусіла націскаць на Ангельшчыну, каб прымусіць апошнюю абмежаваць свой гандаль з чырвоным Кітаем.

З гэтага бачым, што новыя «мірныя» ходы Крэмля не зьяўляюцца нічым новым. Яны зьяўляюцца пасьлядоўнай рэалізацыяй палітыкі, устаноўленай яшчэ на XIX зьезьдзе камуністычнай партыі з удзелам самога Сталіна. Тады, між іншымі, былі вызначаныя наступныя мэты палітыкі Савецкага Саюзу на найбліжэйшую будучыню: давесьці да адарваньня Заходняй Эўропы ад Амэрыкі, пакрыжаваць пляны ўзбраеньня Заходняй Нямеччыны, не дапусьціць да стварэньня эўрапэйскай арміі і захістаць існаваньне самога Атлянтычнага пакту. Новыя ўладары Крэмля аказаліся сяньня вернымі вучнямі Сталіна.

Камуністычныя прапановы перамір'я ў Карэі зусім не пярэчаць гэтым савецкім канцэпцыям. Справа ў тым, што Саветы, а перадусім чырвоны Кітай, маглі сур'ёзна спалохацца цьвёрдай і энэргічнай паставы прэзыдэнта Айзэнгаўэра ў карэйскім пытаньні. Яны ведаюць, што Айзэнгаўэр, верны свайму прырачэньню, зробіць усё, каб гэтую вайну ганарова для Амэрыкі скончыць. Пэрспэктыва збройнай інтэрвэнцыі пры амэрыканскай помачы Чан-Кай-Шэка зусім ня ўсьміхаецца Мао-Тсэ-Тунгу. Саветы ведаюць, што калі Айзэнгаўэру ня ўдасца закончыць вайны мірнымі сродкамі, ён будзе змушаны ўжыць сілы. Калі-ж Саветы яшчэ ня чуюцца на сілах адкрыта ўмяшацца ў такую вайну, тады перамога Амэрыкі загарантаваная. Такое заканчэньне разьдзьмуханага Саветамі карэйскага канфлікту вельмі адмоўна адбілася-б на савецкім прэсьцiжы й непамерна зьменшыла-б іхныя ўплывы ў вольным сьвеце. Дык ці-ж ня выгадней ім пры такой сытуацыі на дзеле паказаць свае мірныя інтэнцыі якраз у Карэі і давесьці да заканчэньня гэтае вайны пры найвыгаднейшых для сябе абставінах. Гэтым яны нязвычайна многа маглі-б выйграць палітычна. Тады іхныя імкненьні ў кірунку маральнага раззбраеньня Захаду, а гэтым самым, пэўне-ж, і мілітарнага, мелі-б вялікі пасьпех. Дык ці не аплаціцца тады ім пасьвяціць Карэю дзеля заманлівай пэрспэктывы выйграць у іншым месцы?

Глыбейшая аналіза цяперашняй савецкай палітыкі паказвае, што ўсе крэмлёўскія галубкі міру, якіх пачалі яны сяньня масава выпускаць на Захад, зьяўляюцца вельмі-ж хвальшывымі. Захад зробіць непрабачальную памылку, калі дасьць сяньня патрэбную Саветам перадышку. Калі вораг часова аслаб, але астаецца пэўным, што потым рушыць із сьвежай сілай, дык трэба па ім біць, не даючы гэтай перадышкі, біць усюды, а найбольш там, дзе яму найбольш баліць. А найбольш балючым для бальшавікоў месцам гэта палітыка вызваленьня, так шумна распачатая нядаўна Задзіночанымі Штатамі, а цяпер, на жаль, дыскрэтна зложаная ў архіў.

**Язэп Каранеўскі**

# Такі крок вітаем

(Заканчэньне)

нэгатыўнасьць, можа быць у будучыні для Беларусаў навет карысным. Дзякуючы яму прынамсі ўжо сяньня выявіліся, як сьлед, тыя нямногія спасярод Беларусаў адзінкі, на якіх ня толькі нельга будзе разьлічваць, калі настане мамэнт апошніх выпрабаваньняў, але што ад іх трэба будзе як найдалей стараніцца, бо яны заўсёды будуць там, хто ім болей дасьць.

Дывэрсію-ж былых беларускіх япіскапаў мусім разглядаць у зусім іншай роўніцы. Яна першая выклікала падзел беларускага эміграцыйнага грамадзянства на два варожыя лягеры, унесла поўную дызарыентацыю сярод масаў беларускіх праваслаўных вернікаў, была прычынай бязупынных сварак і ўзаемных абвінавачаньняў, абсэрбавала нашую эміграцыю ад пазытыўнай нацыянальнай працы. І трэба было шмат энэргіі, вялізарных намаганьняў, каб аднавіць беларускую аўтакефальную праваслаўную герархію, каб япіскапаў, якія хацелі ўсю нашую эміграцыю пацягнуць за сабой пад апеку «старэйшага брата», поўнасьцю ізаляваць ад беларускага грамадзянства і абясшкодзіць.

А людзі, што гуртуюцца сяньня вакол Беларускае Цэнтральнае Рады, якраз былі тады фанатычнымі абаронькамі такой палітыкі (дaслоўна палітыкі, якая ня мела ўжо нічога супольнага ані з царквой ані з рэлігіяй) япіскапаў, ня толькі перашкаджалі нам у выкрываньні ейнае антыбеларускасьці, але за гэта найвастрэй нас атакавалі. Вось чаму апошняе выступленьне «Незалежнай Беларусі» супраць новай, але такой самай паводля свайго характару,дывэрсіі, пры гэтым выступленьне яснае й станоўчае, нам астаецца толькі прывітаць. Нам хацелася-б верыць, што вытупленьне гэтае ня будзе фактам адзіночным, але вызначыць сабой усю далейшую палітыку ўспомненай групы.

Нядаўна паявіўся ў «Бацькаўшчыне» артыкул «Як дасягнуць каардынацыі беларускае эміграцыі?», аўтар якога, А. Сьвіслацкі, прапануе поўнае пагадненьне між Беларусамі, што гуртуюцца вакол БНР з аднаго боку і БЦР — з другога, ды паказвае спосабы практычнага правядзеньня такога пагадненьня. «Незалежная Беларусь» у тым-жа самым нумары выступае з артыкулам Кузьмы Забужаніна «Каардынацыя й пагадненьне», у якім таксама абараняецца гэтая каардынацыйная й пагадняльная канцэпцыя, толькі даюцца зусім іншыя на яе рэцэпты. На наш пагляд, і адзін і другі аўтар выходзіць з хвальшывага гледзішча, і адзін і другі хацеў-бы гэтае пагадненьне правесьці чыста мэханічным спосабам. Каб дасягнуць запраўднага пагадненьня ці каардынацыі, павінна быць найперш створаная дзеля гэтага ідэалягічная база, і то ня база, выпісаная ў праграмах абедзьвюх групаў, бо гэтыя праграмы амаль аднолькавыя (усе-ж «стаяць» на Акце 25 Сакавіка), але яна павінна быць паказаная ў практычнай дзейнасьці. Бо ані справа вызнаваньня першага ці другога кангрэсу, ані справа асобаў прэзыдэнтаў была прычынаю сяньняшняга падзелу. Падзел пачаўся яшчэ тады, калі БЦР, пасьля самаліквідацыйнага паседжаньня 25 верасьня 1945 г. пад Вюрцбэргам, уважала сябе разьвязанай, а ейны прэзыдэнт з пэўных прычынаў быў тады вонках усякай палітычнай дзейнасьці на эміграцыі. Падзел, — яшчэ раз паўтараем — быў запачаткаваны вясной 1946 году дывэрсіяй япіскапаў. Канкрэтна ён зарысаваўся пасьля зьезду праваслаўных Беларусаў 5 травеня 1946 г. у Рэгенсбургу, калі бальшыня нашага грамадзянства, пераканаўшыся аб тым, што япіскапы ня вернуцца назад да Беларусаў і пойдуць расейскім адзінанедзялімскім шляхам, заняла да іхнае палітыкі нэгатыўнае становішча, а меншыня асталася пры япіскапах пры ўсякай іхнай палітыцы. Потым да паглыбленьня гэтага падзелу далучыліся прычыны іншыя, якія або выплывалі зь першай, аснаўной прычыны, або паўставалі із самага факту варожасьці абедзьвюх групаў, або, напасьледак, былі ўнесеныя сьвядома ці несьвядома ўсякімі цёмнымі авантурыстычнымі й амаральнымі элемэнтамі, якіх ахвотна прыймала ў рады свае група, што сяньня падтрымлівае БЦР.

Дзеля гэтага ўважаем, што калі гэтая першая й аснаўная прычына, што непасрэдна выклікала ўспомнены падзел і пасеіла ўзаемную варожасьць, ужо адпала, то ў сьлед за ей павінны былі-б адпасьці і ўсе прычыны іншыя, часамі ня менш важныя за першую, і тады толькі можа быць знойдзеная гэтая супольная база для паразуменьня, супрацоўніцтва, каардынацыі дзеяньня, а навет і поўнага задзіночаньня. Бяз гэтай-жа базы прапанаваць сяньня чыста мэханічныя спосабы пагадненьня й каардынацыі шляхам пасыланьня дэлегатаў у існуючыя або ў ад гок твораныя ўстановы, шляхам розных выбараў ці перавыбараў, гэта значыць гаварыць у пустую.

**Алесь Крыга**

# Зьмена назвы Амэрыканскага Камітэту

У канцы сакавіка сёлета «Амэрыканскі Камітэт для Вызваленьня Народаў Расеі» зьмяніў сваю назву на «Амэрыканскі Камітэт для Вызваленьня ад Бальшавізму».

У сувязі з гэтым старшыня гэтага Камітэту адмірал Стывэнс 25 сакавіка выдаў спэцыяльны прэсавы камунікат, у якім між іншым чытаем наступнае:

«Камітэт паўстаў у штаце Дэлявэр 8 лютага 1951 году пад назвай «Амэрыканскі Камітэт Свабоды для Народаў СССР». Некалькі месяцаў пазьней ягоная назва была зьмененая на «Амэрыканскі Камітэт для Вызваленьня Народаў Расеі». Прычыны, якія прывялі да цяперашняй зьмены, зьяўляюцца наступныя:

Камітэт прыняў раней назву «Амэрыканскі Камітэт для Вызваленьня Народаў Расеі» таму, што яна ў яркай форме выясьняла амэрыканскаму грамадзянству, якія ёсьць ягоныя мэты й прычыны існаваньня. У разуменьні перасечнага Амэрыканца, які глыбей неабзнаёмлены з этнаграфічнымі праблемамі ў СССР, словы «Народы Расеі» адносяцца да тых народаў, якія сяньня ўваходзяць у склад Савецкага Саюзу. У разуменьні Амэрыканцаў такая тэрміналёгія служыць выключна утылітарным мэтам і ня мае ніякага палітычнага значэньня для нацыянальнага пытаньня ў сярэдзіне СССР.

Камітэт быў добра пра тое паінфармаваным, што многія — часта ўзаемна варожыя — элемэнты сярод эмігрантаў з Савецкага Саюзу з розных прычынаў глядзелі на гэтую назву зь незадаваленьнем і падазрэньнем. Намаганьні зьмяніць гэтую назву на іншую **давалі добрую нагоду для шавіністычных агентаў баламуціць тыя пазытыўныя колы эмігрантаў, якія ўзапраўды хацелі задзіночыць усе свае высілкі ў антыбальшавіцкім змаганьні** (Падкрэсьленьне нашае — Рэд.).

Камітэт ужо раней паказваў на тое, што мамэнт непаразуменьня між ім і эміграцыяй на такім фоне узьдзержываў ад супрацоўніцтва з Камітэтам тыя

(Заканчэньне на 3 балоне)

## ЯНКА КУПАЛА

(9)

# ТУТЭЙШЫЯ

(Заканчэньне)

НАЧАЛЬНІК. Добрае так сабе... Вашы дакумэнты!

МІКІТА. Якія — старыя, ці новыя? Старыя во дзе ў гэтых партфэльчыках. (Паказвае на прынесеныя к таму часу Гануляй партфэлі).

НАЧАЛЬНІК. Старыя потым раскумекаем, — давайце новыя.

МІКІТА. (Пакапаўшыся ў кішэнях і за пазухай, на бок). Оей, оей! Польскі дакумэнт трэба паказваць. Каб я лепей скрозь дна праваліўся! (Дастаўшы дакумэнт з-за пазухі, да Начальніка). Во ён, гэты, меджду протчым, дакумэнт. (На бок). Каб яго калядны пярун спаліў!

НАЧАЛЬНІК. (Разглядаючы дакумэнт). Польскі?

МІКІТА. Зусім польскі і з усіх бакоў польскі. (На бок). Каб яго за Буг вынесла, меджду протчым!

НАЧАЛЬНІК. Хто можа прачытаць?

СЬПІЧЫНІ. Пазвольце, таварыш, я прачытаю. (Чытае). «Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі служы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель».

МІКІТА. «Яко розносіцель», Гэнры Мотавіч!

СЬПІЧЫНІ Паложым, не «яко розносіцель», а «яко доносіцель», — чорнае на белым стаіць.

НАЧАЛЬНІК. Пeратлумачце дакумэнт.

СЬПІЧЫНІ. «Пакасчык гэтага, Нікіцій Зносілов, служыць у Менскім Камісарыяце паліцыі даношчыкам».

МІКІТА. «Разношчыкам», Гэнрых Мотавіч!

СЬПІЧЫНІ. Не «разношчыкам», а даношчыкам», — чорнае па беламу стаіць, гражданін Зносілов.

МІКІТА. Вы, мусье прафэсар, кепска прачыталі і кепска пeратлумачылі.

СЬПІЧЫНІ. Паложым, я ніколі кепска ня чытаю і кепска ня тлумачу, глядзеце самі, гражданін рэгістратар!

МІКІТА. (Чытаючы). До... до... до... носіцелем. Оей, оей. Як-жа гэта вышла? Я сам пісаў, сам рукою ўласнай пісаў, а начальства подпіс дало і не прачытала, мабыць, Гэнрых Мотавіч! Як-жа гэта вы мяне вучылі, меджду протчым?

СЬПІЧЫНІ. Паложым, пры чым тут мая навука, калі вы самі пераблуталі «до» з «роз»-ам. А можа вы й ня пераблуталі?

МІКІТА. Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.

НАЧАЛЬНІК. Ну, досыць, пасьля разьбяром! (Да Мікіты). Хто тут з вамі яшчэ знаходзіцца?

МІКІТА. Гэта, меджду протчым, мая мамаша, а гэта і гэна, як іх? — мае госьці.

НАЧАЛЬНІК. (Да Спраўніка і Дамы). Вашы дакумэнты. (Прыглeдзеўшыся). І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя? Во цёплая кампанія. (Дама і Спраўнік кляняюцца і аддаюць свае дакумэнты).

НАЧАЛЬНІК. (Да Сьпічыні). Прачытайце.

СЬПІЧЫНІ. У гэтым напісана: «рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінська».

НАЧАЛЬНІК. Што гэта знача?

СПРАЎНІК. «Акалодачны надзірацель сёмай часьці места Менску», гаспадзін таварыш.

НАЧАЛЬНІК. (Да Патрульнага). Зрабеце рэвізію кішэняў гэтага грамадзяніна.

ПАТРУЛЬНЫ. (Робіць рэвізію, знаходзіць у кішэні Спраўніка пагоны і падае іх Начальніку).

НАЧАЛЬНІК. (Круцячы пагоны, ў руках, да Спраўніка). Што гэта?

СПРАЎНІК Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.

НАЧАЛЬНІК. (Палажыўшы пагоны на стол, да Сьпічыні). Чытайте другі дакумэнт.

СЬПІЧЫНІ. (Чытае). «Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасьці».

НАЧАЛЬНІК. Шпацэрзон... Шпацэрзон... Ну, усё роўна, — пойдзе і яна. А цяпер, калі рэвізія скончана, прашу ўсіх ісьці са мной. (Да Ганулі). Вы, цётка, застаіцёся хаты пільнаваць.

МІКІТА. Оей! Оей! Што, і мне йсьці, мусье таварыш?

НАЧАЛЬНІК. А вы думалі як?

МІКІТА. Оей! Оей! Пакіньце мяне. Нашто я вам, меджду протчым, патрэбен? Вось у гэтых партфэлях зусім што іншае аба мне сказана. Зірнеце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасьць. Як прачытаеце, то ўсё роўна не забярыцё мяне, меджду протчым.

НАЧАЛЬНІК. Усё роўна не магу йначай. Гэтыя пісталеты, нагрaбленая гарэлька, патака, цяганьне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта для нас таксама добрыя паперы, хоць для вас, можа, і дрэнныя паперы.

МІКІТА. Дык пакажэце мне, меджду протчым, ваша чырвонае благородзіе, чэк на мой арышт.

НАЧАЛЬНІК. Чэк атрымаеце, як прыдзеце на месца. Ідзем! Прашу забіраць «вешчэственныя даказательства». (Начальнік забірае рэвальвэры, адзін партфэль і пагоны. Даме, Спраўніку, Грамадзяніну і Сьпічыні дае несьці па пары бутэлак, Мікіце — патаку, двум Патрульным — па партфэлю). А цяпер — марш за мной!

МІКІТА. Оей! Оей! Ваша тaварыская міласьць! Пакіньце мяне з мамашай. Меджду протчым, пайду памагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!

ГАНУЛЯ. Мае паночкі, мае галубочкі! Хаця ня зьмікіцьце майго Мікіткі. Хаця ня зьмікіцьце! (Апускаецца зь ціхім плачам на спакаваныя манаткі. Усе, апрача яе, выходзяць. Пры апошніх Гануліных словах за вокнамі на вуліцы разлягаецца харавая песьня).

Ой ты, яблочко,
Куда коцішся?
Не туда попадзёш —
Не вароцішся...

Пасьля паўмінутнай паўзы, пад нясьціхаючыя гукі песьні, паволі апускаецца

ЗАСЛОНА

КАНЕЦ

Акопы, 31. VIII. 1922 г.

